**✦ ЭЛЕГІЧНЫ ЎСПАМІН ПРА ЖНІВЕНЬСКІ ПУТЧ. ✦✦✦ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЬЦЯГ НАД БАРСЭЛЁНАЙ. Гутарка з алімпійскім чэмпіёнам. ✦✦✦ ЯК ПАЗБЫЦЦА МІЛЬЁНА. З замежных уражаньняў. ✦✦✦ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ СЬВЯДОМАСЬЦЬ БЕЛАРУСАЎ. Нататкі з канфэрэнцыі. ✦✦✦ АДЗІН ДЗЕНЬ У ВІЛЬНІ. ✦**




*Жыве Беларусь!*

# ПАГОНЯ

*Грамадзка-палітычная газэта* *Заснавана ў 1920 г.*

*№ 6, пятніца, 28 жніўня 1992 г.* *Кошт 1 рубель.*




*Цырк на дроце*

## ПАЛЯК САБРАЎСЯ БЫЦЬ ПРЭЗІДЭНТАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

«Газэта Выборча» з Варшавы ды «Ніва» зь Беластоку паведамляюць, што нейкі АЛЯКСАНДР ПРУШЫНСКІ абсалютна паважна распачаў барацьбу за пасаду прэзідэнта Беларусі, якой пакуль што няма нават у Канстытуцыі ды невядома, ці будзе...

Хто ж ён такі?

Гэта сын вядомага польскага пісьменьніка Ксавэра Прушынскага, вялікі фантазёр і авантурыст як на свае 56 гадоў. Па прафэсіі ён эканаміст, спэцыяліст па дададанай вартасьці прадукту. У 70-х гадох эміграваў з Польшчы да Канады й там стала жыў. У 1989-м годзе прыехаў у Польшчу, каб балатавацца ў Сэнат, але патрэбную для рэгістрацыі колькасьць галасоў не сабраў. Яшчэ з канадыйскіх часоў А. Прушынскі вядомы як выдаўца крайніх нацыяналістычных і антысэміцкіх часопісаў па абодва бакі «Вялікай Вады». Цяпер на Беларусі пан Прушынскі выдае газэту «Прызмат», падаў ён і прашэньне аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь.

Трэба дадаць, што сярод менскіх прыяцеляў пана кандыдата ў прэзідэнты Беларусі шырокавядомы тав. Завальнюк, ксёндз Чырвонага Касьцёлу ў Менску, змагар супраць Беларускай Каталіцкай Грамады, а за «польскую веру». На адной з каталіцкіх маніфэстацый у Менску пан Прушынскі скакаў з польскім сьцягам, пакуль біскуп Сьвёнтак не загадаў гэты сьцяг куды-небудзь прыняць, бо ён стварае клопат у цяперашніх сувэрэнных умовах.

Аказваецца, гэта было не чарговае дзівацтва чалавека з хворай фантазіяй, але першы крок незалежнага кандыдата ў барацьбе за прэзідэнцкае крэсла...

Конец сьвята, прошэ паньства!

**А-ь.**

*Адрасы беларусізацыі*

## ЦЯГНІК, ПОЕЗД, ПОЦЁНГ...

Заўжды лічылася, што чыгуначны і іншыя вакзалы — гэта люстра горада, бо яны першыя вітаюць гасьцей...

Шмат часу прайшло, як «адзіны і братні» ціхенька сканаў. Беларусь, як і ўсе, пастунова будуе сваю дзяржаўнасьць, але на месцах, відаць, яшчэ цьмяна зразумелі гэтую гістарычную неабходнасьць, і сям-там можна ўбачыць аджыўшыя сваё эсэсэсэраўскія шыльды.

Ня выключэньне й чыгуначны вакзал у Горадні. Але ж начальнік вакзалу спадар Казімір Німера запэўніў карэспандэнта, што ў хуткім часе ўсё будзе зьменена. Мінула два тыдні, і што ж? Зьмены сапраўды адбыліся. Зараз замест «Справочное бюро» вісіць шыльда з лагодным беларускім «Даведка», «Доска объявлений» цяпер «Дошка аб´яў», паведамленьні для пасажыраў гучаць на дзяржаўнай мове, а дублююцца нават на польскай. Думалася, што дыктар у час аб´явы назаве цягнік, «поездом», але я памыліўся, нават гэтае слова прагучала дакладна. Ня ўсё, праўда, тут яшчэ зроблена, чыгуначнікаў чакае наперадзе шмат працы. Трэба зьмяніць надпісы на дошцы раскладу руху цягнікоў, гэта патрабуе выдаткаў, а грошай (вядома ж) няма. І ўсё-ткі хоць і маленечкімі крокамі, а чыгунка Горадні распачала рух да беларушчыны.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

## ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ БРЫГАДА
### ГОРАДНЯ, ЛЕТА 1992 ГОДА

**28 ліпеня 1992 года ў Горадні атрымала свой статус першая брыгада беларускага нацыянальнага войска. Яе камандзірам прызначаны палкоўнік Паўлоўскі Аляксандр Аляксеявіч.**

Я трапіў у вайсковы гарадок толькі праз месяц. На ўскрайку горада, ужо амаль у лесе, мне некалі даводзілася бываць тут, праўда, за КПП, ніколі. Зараз узьнікаюць нейкія новыя пачуцьці — гэта ж ужо беларускае войска! Але як адрозьніць яго ад таго, у якім некалі служыў я сам? Зьнешне, здалёк, пакуль іду па дарозе, здаецца, ўсё тое самае. На шыльдзе для аб´яў маленькая паперка: «Офицерская семья из трех человек ищет квартиру». На КПП сустракае малады лейтэнант, паказвае, як трапіць да штаба. Не адчуваю ад яго вайсковай афіцыйнасьці. Можа, размарыла сьпёка?

Кароткая, падрэзаная трава, прыбрана, як некалі і ў нашым вайсковым гарадку. Наперадзе на п´едэстале савецкі танк. Зьвілася думка, што, мабыць, не туды трапіў, аднак, на будынку штаба заўважаю шыльду: «Министерство обороны РБ». Відаць, саму шыльду не мянялі, толькі выкінулі літары СССР. Хай сабе так, усё ж лепей.

Нарэшце ў габінэце палкоўніка Паўлоўскага. Перад гэтым найцяжэй мне ўяўляўся камандзір беларускай брыгады. Я ўбачыў твар добрага чалавека, ён прапанаваў сесьці і ва ўтульных фатэлях прасторнага габінэта Аляксандр Аляксеявіч адказаў на мае пытаньні. Праўда, гутарылі мы нядоўга, бо перад гэтым я бачыў, што шмат людзей чакаюць камандзіра, сярод якіх былі не толькі афіцэры, а нават і маці жаўнера.

**— Найперш, Аляксандр Аляксеявіч, віншую вас з прызначэньнем на пасаду камандзіра першай беларускай брыгады. Як вы сябе пачуваеце на новым месцы?**

— Беларусь была першай з краін СНД, якая пачала рэформу войска, і першая брыгада была ўтворана ў нас у Горадні, на месцы былой танкавай дывізіі. Вядома, для мяне гэта перш за ўсё адказнасьць, якую я добра усьведамляю. Разумею, што наперадзе шмат працы, але спадзяюся на лепшае.

**— Гэта выпадковасьць, што першая брыгада была ўтворана менавіта ў Горадні?**

— Такім было рашэньне міністра Абароны. Думаю, гэта тлумачыцца перш за ўсё тым, што ў былой дывізіі меліся ўсе неабходныя магчымасьці. Ды і да таго ж вайсковая рэформа вядзецца гэтак, каб як мага зьменшыць выдаткі. А ў нас ужо была неабходная аснова для разьмяшчэньня жаўнераў, тэхніка, сховішчы, дробрая матэрыяльна-вучэбная аснова.

Праўда, відаць, не астатнюю ролю адыграла і тое, што дывізія мела свой слаўны гістарычны шлях. Гвардэйская, механізаваная, як пашану, мае назву «Кіеўска-Бэрлінская», на сьцягу чатыры ордэны за баявыя заслугі. Усё гэта пераняла наша брыгада.

**— Што сабой будзе ўяўляць беларуская брыгада ў структурных адносінах? Гэта будзе тое самае, што і ў Савецкай арміі, ці, можа, вы арыентуецеся на нейкія іншыя варыянты?**

— Наша брыгада — прынцыпова новая структура, якая не мае аналагаў, і распрацавана непасрэдна міністэрствам Абароны РБ. Дарэчы, брыгада запачаткавала кардынальную рэформу войска на Беларусі.

**(Працяг на 2-й стар.)**



*Паштовая скрынка*

## КОЛАС — ЯКУБ, ЛЕНІН — МІКАЛАЙ

Пасьля таго, як у газэтных кіёсках зьявіўся 5-ты нумар «Пагоні», у рэдакцыі зазьвінеў тэлефон. Член КПСС, як прадставіўся пэнсіянер, каторы нам пазваніў, вельмі абурыўся тым, што вядомы правадыр пралетарыяту быў названы ў нашае газэце Мікалаем. На жаль, я не запомніў, які менавіта стаж у шэрагах нябожчыцы КПСС мае наш выпадковы чытач, але сам ён відавочна — тыповая ахвяра аблуды й дагматычнага мысьленьня. Існуе катэгорыя людзей, якія, ня ведаючы слушнага адказу на пытаньне, будуць аднак зацята даводзіць сваю рацыю.

Усяму адукаванаму сьвету, апроч, канешне, насельнікаў сацыялістычнага лягеру, добра вядома, што псэўданім У. Ульянава быў «Мікалай Ленін», якім ён падпісваў свае гэніяльныя брашуркі да самае сьмерці. У пазьнейшыя часы адбылася ідэялягічная мэтамарфоза, у выніку якой з сапраўднага імя з прозьвішчам, з аднаго боку, і з сапраўднага псэўданіму — з другога, было ўтворана штосьці сярэдняе. Увогуле так звычайна ня робяць: не гавораць, прыкладам, «Канстаньцін Колас» і «Якуб Міцкевіч». Хоць на турыстычных плянах Горадні можна знайсьці вуліцу «Аляізы Цёткі».

А вінаваты ва ўсёй гэтай блытаніне, мабыць, усё той жа Іосіф Вісарыёнавіч, які, рэвалюцыйна разбураючы традыцыю, зрабіў сабе гібрыд з уласнага імя й прыдуманага псэўданіма. Вось і давялося й нябожчыку Ільічу падначальвацца волі сталёвага Язэпа.

**А. С.**

**У мінулую суботу ў Зэльве адкрыты помнік на магіле Ларысы ды Івана Геніюшаў.**

## «ДЗЕ ТОЙ НАРОД...»

Пайшоў дзесяты год пасьля сьмерці вялікай беларускай паэткі, калі скончыліся нарэшце працы над помнікам. На цёмнай мармуровай пліце імёны й даты жыцьця Геніюшаў, на версе пліты — чорны каваны шасьціканцовы беларускі крыж. Аўтар помніка скульптар А. Шатэрнік, непасрэдна будаўніцтвам помніка кіраваў археолаг М. Чарняўскі, які таксама адкрыў кароткі памінальны мітынг.

На адкрыцьцё сабралася каля трыццаці чалавек — з Горадні, Зэльвы, Менску, Баранавіч. Шкада, што ня было тых, хто свае ўнівэрсітэты праходзіў у брэжнеўскі час у геніюшаўскай хаце — З. Пазьняк, Ю. Хадыка, В. Вячорка, С. Дубавец, У. Арлоў...

Першым на мітынгу выступіў баранавічанін П. Рашэтнікаў, які ведаў Геніюшаў яшчэ па Чэха-Славаччыне, а потым адбываў катаргу ў тых жа варкуцінскіх лягерах.

Прамаўлялі народны дэпутат Беларусі А. Вярцінскі, паэт М. Лужанін. На жаль, не абыйшлося без даволі брыдкага моманту. Малады зэльвенскі выканкамавец, шэф мясцовай культуры распачаў раптам нейкую палеміку: і зусім ня дрэнна было тут Л. Геніюш, а добра, не сачылі тут за ёй і не данасілі ў «кантору», а зусім наадварот... Пры гэтым нават ня выйшаў да магілы й не павярнуўся да людзей тварам, як астатнія выступаючыя — так і абапіраўся адным месцам на агароджу суседняй магілы. Скончыў нейкай цьмянай фразай пра «зэльвэнскі ўрад» (?!) і ... пачаў прасіць грошы ў менскага начальства.

Прыйшлося міністру замежных справаў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанку, які таксама выступіў на мітынгу, дыпляматычна загладжваць бесцырымоннасьць маладога чыноўніка. Міністр, між іншым, сказаў, што адраджэньне сучаснай іспаніі пачалося з таго, што жывыя пакінулі ў спакоі сваіх мёртвых, перасталі іх дзяліць і ганьбіць.

«Калі Ларысу Антонаўну хавалі,— сказала ў сваім выступленьні Данута Бічэль-Загнетава,— то ўся Зэльва была на вуліцы. Так, адны любілі яе, другія ненавідзелі... Але гэта былі людзкія адчуваньні, людзкія эмоцыі. А сягоньня — дзе гэты народ?! Няма яго. Кожны сам па сабе, думае, так прасьцей выжыць... Тут казалі, што вось каб цяпер Ларыса Антонаўна ўстала і ўбачыла незалежнасьць і бел-чырвона-белыя сьцягі, і ўсё астатняе, то яна б узрадавалася... А яна цярпець не магла паказухі, няшчырасьці, падхалімажу. Пакуль што тут папяровая незалежнасьць, пакуль што такога краю няма, як і не было... І я ня ведаю, ці калі-небудзь будзе, калі мы так хутка ўсё забываем, так лёгка прыстасоўваемся да часу...».

Далей выступілі некалькі сталічных гасьцей і зэльвенцаў. Сваячка Ларысы Антонаўны, даглядаючая яе магілу Ірына Тукальская прамаўляла апошняй і прачытала таксама верш Л. Геніюш.

Мітынг скончыўся. Помнік адкрыты. У школьных падручніках вершаў Ларысы Геніюш па-ранейшаму няма.

**А. ШЧАРОЎСКІ.**

РЭФЛЕКСІІ

## «ДЗЯДЗЕЧКА, ВЫ — САВЕЦКІ?»

Нядаўна, на днях сучаснай беларускай драматургіі, пісьменьнік Лявон Караічаў распавядаў цікавую гісторыю. Неяк адпачываў ён на курорце «Златы пяскі» ў Балгарыі. Побач зь ім таксама адпачывала маладая сям 'я зь дзевяцігадовай дзяўчынкай зь Нямеччыны. Дзяўчо зацікавілася суседам і, каб завесьці знаёмства, зьвярнулася да Лявона на ангельскай мове. Той адмоўна патрос галавою, тады яна паспрабавала наладзіць кантакт на мове французаў. Марна. А калі шаноўны спадар выявіў няведаньне й нямецкай, то абуранае малое заявіла: «Дзядзечка, вы — савецкі?»

Успомніўся гэты выпадак, калі ў аўдыторыі Гарадзенскага мэдычнага вучылішча адна з навучэнак заявіла: «Ня буду вывучаць родную мову, хоць я і 100-працэнтная беларуска. Калі што, дык ад 'еду ў Расею». Такія заявы з боку юнакоў і дзяўчат можна пачуць дзе і калі хочаш. Пераконваць іх няма сэнсу. Адно хочацца ім нагадаць: чалавек, які ня мае жаданьня ведаць сваю мову, бадай ня здолее добра ведаць іншую, тым болей некалькі замежных моў.

**Г. А.**

* * *

***У Горадні пачаў дзейнічаць завочны філіял Маскоўскага каледжа каталіцкай тэалёгіі сьв. Фамы Аквінскага.***

*Каледж зьяўляецца багаслоцскай сярэдняй навучальнай установай і ствараецца з мэтай паглыбленага вывучэньня асноў рэлігійнай філязофіі, багаслоўя, асноў хрысьціянскай веры і маральнасьці, а таксама гісторыі царквы, яе гамадзкага вучэньня. Каледж паглыбляе багаслоўскія веды, а таксама рыхтуе выкладчыкаў закону божага, рэлігіязнаўства і сацыяльных работнікаў. Курс, пройдзены ў каледжы, можа служыць падставай для далейшай духоўнай адукацыі. Навучаньне ў каледжы разьлічана на тры гады. У працэсе навучаньня слухачы каледжа здаюць залікі, іспыты, выконваюць рэфераты. Па сканчэньню курсу выпускнікі атрымліваюць дыплём аб атрыманьні багаслоўскай адукацыі, і маюць права зьвярнуцца да біскупа для атрыманьня кананічнай місіі ў галіне выкладаньня закону Божага і рэлігіязнаўства ў пачатковых і сярэдніх навучальных установах і на курсах катэхізацыі.*

*У каледж могуць быць залічаны як рыма-каталікі, так і грэка-каталікі, а таксама на адпаведных умовах й некаталікі.*

*Прыём у каледж працягваецца. За даведкамі па афармленьню дакументаў зьвяртацца па тэлефонах: 31-24-50, 31-14-77.*

**Выкладчык каледжа В. ДАНІЛАЎ.**

## Бел-чырвона-белы сьцяг над Барсэлёнай — у гонар гарадзенца Кастуся Лукашыка

**У самы першы дзень алімпійскіх гульняў над Барсэлёнай вышэй за іншыя залунаў беларускі Бел-чырвона-белы сьцяг. Можа, так высока і перад усім сьветам, ён залунаў упершыню, і, напэўна, мільёны людзей спазналі, што ён належыць Беларусі.**

**Сьцяг быў узьняты ў гонар чэмпіёна па кулявой стральбе, шаснаццацігадовага спартоўца з Горадні — Кастуся Лукашыка. Сёньня Кастусь — госьць «Пагоні».**



**— Косьця, што ты адчуваў ў той момант, калі вышэй за іншыя ўзьняўся сьцяг Беларусі і над усім стадыёнам гучаў наш гімн!**

— Ой, ведаеце, гэта цяжка пераказаць словамі. Раней я выйграваў чэмпіянат Сьвету, Эўропы, і неаднаразова ўздымаўся сьцяг Савецкага Саюза. Але, калі на гэты раз залунаў беларускі, я адчуў, што ўсё тое, што было раней, нічога не варта ў параўнаньні з гэтым момантам. Мне настолькі было прыемна, што беларускі сьцяг вышэй за ўсе... мне цяжка перадаць вам гэта словамі. Я вельмі хваляваўся, як ніколі раней у жыцьці. І калі ў час цырымоніі ўзнагароджваньня яшчэ гучаў і наш гімн, я, сапраўды, ня чуў пад сабою ног.

**— А ці не адчуваў ты, што знаходзішся ў Беларускай камандзе, ці ўсё было агульным, як і раней!**

— Так, сапраўды, ад самага пачатку я, як і ўсе спартоўцы з Беларусі, адчуў, што знаходжуся ў сваёй камандзе, беларускай. З намі ўвесь час паўсюдна было беларускае кіраўніцтва, якое турбавалася аб нас, дапамагала. Адразу ў першы дзень нас усіх сабралі разам, пазнаёмілі, падарылі на памяць беларускія гадзіньнікі. Па-сапраўднаму адчуваўся клопат і дапамога ў патрэбную хвіліну. Папраўдзе 'я нават не чакаў такога, бо добра памятаю, як гэта было раней. Ды і, ўвогуле, увесь час сярод сваіх суайчыньнікаў у чужой краіне чулася лягчэй.

**— Як табе падалося, ці ведаюць людзі за мяжой пра Беларусь!**

— Думаю, так. Бо адразу пасьля перамогі да мяне падыходзілі журналісты і пыталіся, адкуль я. І шмат зь іх, адчувалася, добра ведалі не толькі Беларусь, але нават і нашу Горадню.

Праўда, мне зусім было незразумела, калі па маскоўскаму тэлебачаньню казалі, што я зь Менска.

**— Дарэчы, а што найбольш цікавіла замежных журналістаў!**

— Як ня дзіўна, маё асабістае жыцьцё, сям 'я, бацькі, колькі часу я займаюся спортам.

**— А з афіцыйных асобаў з кім-небудзь даводзілася сустракацца!**

— Першых пяцёх пераможцаў запрасілі на сустрэчу з Хуанам Антоніа Самаранчам, прэзідэнтам МАК. Звычайны чалавек, невысокага росту, прыемны і жыцьцярадасны, пакінуў аб сабе вельмі добрыя ўражаньні. Да таго ж я атрымаў ад яго добрыя прэзэнты.

**— Косьця, табе давялося пабыць у асяродку самых вядомых спартоўцаў сьвету. Якія ўражаньні засталіся ад зносін з гэтымі людзьмі!**

— Яны звычайныя людзі. Нягледзячы нават на тое, што шмат хто зь іх двух- ці трохкратныя алімпійскія чэмпіёны, размаўляюць з табой, як чалавек з чалавекам, без усялякай фанабэрыі. У гэтым сэнсе ў іх шмат чаму можна павучыцца. На жаль, я дрэнна валодаю ангельскай моваю.

**— У свае шаснаццаць гадоў ты паспытаў шчасьця вялікай перамогі, цябе ведаюць ня толькі ў Беларусі, табой ганарыліся твае суайчыньнікі, калі ты стаў алімпійскім чэмпіёнам. А як ты сам ставішся да гэтай славы!**

— Я ўсё разумею, але, з другога боку, яшчэ не магу ўсё гэта асэнсаваць. Ведаю пакуль толькі адно: нічога дрэннага, здаецца, гэтым не нарабіў. Ды яшчэ і ў Барсэлёне мне казалі, што разуменьне не прыйдзе праз пэўны час. Пакуль мне сапраўды цяжка ва ўсім гэтым разабрацца.

**— Дахаты ты вярнуўся ў добрым настроі!**

— Не зусім так. Я апынуўся ў Горадні ўжо другога жніўня, хоць Алімпіяда скончылася аж дзевятага. Папросту, калі я выступіў, маскоўскі трэнер, ён быў і старэйшым трэнерам СНД па кулявой стральбе, пасьпяшыў хутчэй мяне адправіць, хоць у штабе нашай каманды былі не супраць, каб я прысутнічаў і на закрыцьці Алімпіяды. Дарэчы, маскоўскія трэнеры заўсёды так ставіліся да нас. І самае крыўднае, што сваіх масквічоў, якія не занялі ніякіх прызавых месцаў, заставілі там да канца. А ў маскоўскім самалёце яшчэ назвалі спэкулянтам, бо кайстра вялікая была.

**— Косьця, а як праходзілі самі спаборніцтвы. Дарэчы, па маскоўскім тэлебачаньні не аднойчы даводзілася чуць, што не ўсюды было кампэтэнтнае судзейства!**

— Што датычыць судзьдзяў, то я не паспытаў на сабе іх некампэтэнтнасьць, бо нашы стрэлы цалкам кантралявала электроніка. Зрабіў стрэл, і адразу на экране зьяўляецца вынік.

Іншае, што мне давялося зьведаць — перш за ўсё, барацьбу з самім сабою. Я настолькі хваляваўся, што нават не вельмі добра памятаю, як гэта ўсё адбывалася. Такога напружаньня не адчуваў яшчэ ніколі. Рашаючым стрэлам быў апошні, мне ўжо «дыхалі у сьпіну», я гэта добра адчуваў, а тут яшчэ побач шведскі спартовец так штучна раскашляўся, ды яшчэ так зацяжна... Псіхалягічна я спустошыўся зусім, праўда, задавальненьне ад зробленага было непараўнальным.

**— А якімі былі ўмовы, каб адпачыць, узнавіць свае сілы!**

— Усе ўдзельнікі Алімпіяды жылі ў асобным гарадку, побач з морам. Дарэчы, трапіць туды можна было толькі з спецыяльным пропускам. Умовы былі добрыя, як і заўсёды, калі бываеш за мяжой. Вельмі спадабалася сталоўка, у якой мы харчаваліся бясплатна. Яна працавала круглыя суткі. Пра стравы я ўжо і не ўзгадваю, бо там было усё, што, відаць, толькі магчыма прыдумаць.

Адзінае, у штабе каманды СНД нас адразу папярэдзілі, калі мы выходзім у горад, каб здымалі апазнавальныя карткі, бо быццам, тэлефанавалі тэрарысты і пагражалі. Я, на шчасьце, ні з чым падобным нідзе там не сустракаўся.

**— А якія ўражаньні засталіся ад Іспаніі, Каталёніі, Барсэлёны, ад тамтэйшых людзей!**

— Дзіўная краіна. Там усё напоўнена нейкай нязвыклай рамантычнасьцю. Асабліва запомню горад, па якім ходзіш, любуешся, а перадаць яго прыгажосьць не хапае слоў.

Самі іспанцы вясёлыя, добрыя людзі. Мне асабліва было цікава назіраць за маімі аднагодкамі. Яны такія свабодныя, могуць жыць, як хочуць, і самае цікавае, што пры гэтым жывуць, як нармальныя людзі, не вытвараючы ніякіх дзівацтваў.

**— Табе не хацелася застацца ў гэтай краіне!**

— Не, жыць я ўсё ж хачу дома.

**— Косьця, а што табе даражэй: твой мэдаль, ці тое, што ты пабачыў Алімпіяду!**

— Мэдаль гэты мне вельмі дарагі, але тое, што я там бачыў, застанецца ў памяці назаўсёды. Гэта было сапраўднае чалавечае сьвята, дзеля якога і жыць сапраўды варта.

**М. КАРНЕВІЧ.**

## ПОЛЬСКІЯ НАВІНЫ

### ПАЛОМНІЦТВА

*Адбылося першае паломніцтва моладзі з Уроцлава да Вострае Брамы ў Вільні. Перакрочыўшы мяжу ў Кузьніцы-Брузгох, 200-асабовая група моладзі прайшла са сьпевамі й малітвамі цераз Горадню. Паломнікі несьлі плякаты, у тым ліку й на беларускай мове. Пакланіўшыся ў Вільні абразу сьвятое Маці Боскай Вострабрамскай, моладзь узяла ўдзел у набажэнстве ў касьцёле сьв. Казіміра — патрона Вялікага Княства Літоўскага.*

### ВАЙСКОВЫЯ «ПЭНАТЫ»

*Прэзідэнт Польшчы сп. Л. Валэнса наведаў пад Варшавай школу пад 'афіцэраў Войска Польскага, дзе ў палове 60-х гадоў ён навучаўся на вайсковага тэлеграфіста й здаў іспыты на 1-ю клясу. Прэзідэнт паказаў, што яшчэ не забыўся, як трэба працаваць з радыёключом. Ён таксама папалуднаваў з жаўнерамі й афіцэрамі ў гарнізоннае сталоўцы.*

### У ЯГЭЛЁНСКІМ УНІВЭРСІТЭЦЕ

*У сёлетнім навучальным годзе студэнты Ягэлёнскага унівэрсітэта, які скончыў Фр. Скарына, маюць плаціць за вучобу. На першым курсе — 250 тысячаў злотых, на астатніх — па 200 тысяч. І танна, і добра.*

### ПРАДАЎЦЫ-АШУКАНЦЫ

*Нядаўна польскімі кантралёрамі былі спраўджаны 1280 харчовых крамаў. У 1155 зь іх кантралёраў аблічылі, або больш як у 90 працэнтах выпадкаў. У кожнай дзясятай краме былі завышаныя цэны. Часта дата вырабу заклейвалася зграбнымі налепкамі з цаной, пакольку тэрмін ужываньня прадуктаў ужо скончыўся. Аказваецца, падманваюць ня толькі ў нас.*

### ПРЭЗІДЭНТ НА РАДЫЁ

*Прэзідэнт Л. Валэнса наведаў рэдакцыю папулярнай праграмы «Лета з радыё». Слухачы мелі магчымасьць задаць яму пытаньні на тэмы дня й атрымаць адразу ў эфіры адказ. У сувязі з хваляй страйкаў, якія апанавалі краіну, прэзідэнт заклікаў суграмадзянаў да большай адказнасьці за Польшчу. Для Л. Валэнсы была выканана песьня «Чырвоных гітараў». Як заўважылі журналісты, сьпевы яму спадабаліся, але не зусім адпавядаў колер гітараў, бо прэзідэнт нагадаў аб тым, што Польшча яшчэ не надта аддалілася ад камунізму.*

### КРОЎ — ХВОРЫМ ДЗЕЦЯМ

*Польшчу наведаў прэзідэнт міжнароднай арганізацыі Чырвонага Крыжа сп. К. Самаруга. Ён наведаў некалькі польскіх шпіталяў. Перад ад 'ездам прэзідэнт здаў 400 грамаў крыві для патрэбаў дзяцей, хворых на СНІД.*

**Падрыхтаваў Сяргей АСТРАВЕЦ.**

## СНІД, АЗОН І «КІТАЙСКІ АГУРОК»

**Нядаўна сродкі інфармацыі Захаду паведамілі сэнсацыйную навіну: «чума XX стагодзьдзя» пачынае адступаць ад узьдзеяньня на яе азонам. Да такой высновы прыйшлі навукоўцы мэдыцынскага Цэнтру вэтэранаў Сан-Францыска. Азон, які лекары ўводзілі хворым праз страўнік, значна зьменшаў колькасьць віруса ў крыві, грунтоўна стымуляваў абарончыя сілы арганізму.**

**Ці гэта напраўду так! Я вырашыў распытаць загадчыцу лябараторыі па СНІДу эпідэмстанцыі ў Горадні Г. У. Косаву.**

Так, пагаджаецца спадарыня Косава, азон эфэктыўна ўзьдзейнічае на імунныя сілы арганізма, але назваць гэта адкрыцьцём нельга, бо яшчэ ў часы першай сусьветнай вайны азон выкарыстоўваўся як лек. Куды сучасьней дый спрыяльней хвораму выкарыстоўваць корань Джы-эльнью, гэтак званага «кітайскага агурка». Ён, як і азон, зьнішчае клеткі, хворыя на СНІД. Заўважу, што два гэтыя лекі даюць пазітыўны вынік толькі тады, калі сама хвароба ў чалавека толькі пачынаецца, і ў арганізме яшчэ невялічкая колькасьць хворых клетак.

У зацягнутым перыядзе лекаваць азонам ці Джы-эль-нью няма сэнсу, яны заб 'юць арганізм чалавека.

Есьць яшчэ й лек рэтравір, але ж і яго працяглы час скарыстоўваць няма магчымасьці: ён таксічны й пасьля шматразовых ужываньняў таксама мае адмоўны эфэкт.

**— Гэта што датычыць лекаў, а якія абставіны зь «бядой стагодзьдзя» ў нашай вобласьці!**

— Скажу шчыра: тое, што адбываецца ў нас у Горадні, мала радуе лекараў. Як бачыце, паводле апошніх зьвестак значна ўзрос лік інфікаваных СНІДам у суседняй Польшчы. Няма патрэбы распавядаць пра наш славуты «камэрцыйны турызм», мэдыкаў вельмі гэта непакоіць. Тым болей, што Польшча яшчэ і вельмі наркатызавана, а гэта, як кажуць, «зона павышанай рызыкі». Намі ў вобласьці выяўлены ўсе, хто падпадае пад ўзьдзеяньне гэтай «зоны». Сёньня па вобласьці на ўліку знаходзяцца 146 наркаманаў, зь іх 47-у Горадні, і 120 гомасэксуалістаў.

**— Што ў нас робіцца ў накірунку прафіляктыкі!**

— З усімі выяўленымі «зоны» вядуцца тлумачальныя размовы, яны стала назіраюцца. На жаль, тут мы самотныя. З боку праваахоўных установ няма падтрымкі. Бо менавіта міліцыя лепей ведае ўсе месцы, дзе зьбіраюцца тыя, хто хворы ў сэнсе фізічных адхіленьняў.

**— Кажуць, што і ў вобласьці ёсьць інфікаваныя!**

— Не, такіх пакуль што ня выяўлена.

А чуткі, як заўжды, маюць пад сабою глебу. Да нас у горад павінна была пераехаць інфікаваная сям 'я зь Веткаўскага раёна, але гэтага не адбылося, сям 'я атрымала кватэру ў Гомлі.

**Распытваў Г. АСТРОЎСКІ.**

# ГРОШЫ ЛЮБЯЦЬ ПЕРАЛІК

**ЭКСПРЭС-АПЫТАНЬНЕ**

**«Камэрсант» з рынку:**

— А навошта мне гэтае «звяр´ё», калі я езджу па ўсіх краінах СНД? Лепш ужо «драўляныя». Яны ўсюды пакуль што — грошы, а нашыя — толькі ў нас. У Смаленску, або ў Вільні — гэта паперкі...

**Бабулька, што гандлюе яйкамі:**

— А мне, дзеткі, усе адно, абы магазінерка брала...

**Першая стрэчная жанчына:**

— У мяне знаёмая ў магазіне працуе, дык я іх адразу нясу мяняць. Або на ашчадную кніжку кладу. Хто яго ведае, што заўтра будзе. У нашага Ўрада сем пятніц на тыдзень.

Вось вам і гатовы рэцэпт, як пазбавіцца «зайцаў». Але, як кажуць, халера іх бяры, калі б нашыя грошы не паважалі толькі на рынку. Часта мяне здзіўляла, чаму гэта людзі з такім незадавальненнем бяруць рэшту беларускімі грашыма, а то і папросяць даць «рускімі»? Здаецца і праўда, ці ж не ўсё адно, калі нікуды ня едзеш, не прыстроіўся ў «бізнэсмэны»? Аказваецца, што не заўсёды. І тое, як звычайна ў нас адбываецца гэта, як кажуць, сьмеху варта, але настрой псуе...

**З «ЗАЙЦАМ» ПАЕХАЛА «ЗАЙЦАМ»**

Нагадаць, дзе носяць грошы бабулькі? Скажаце, брыдка цікавіцца, хто дзе хавае грошы? А я вось лічу, што трэба гэта ведаць. Тады не паехала б тая бабулька «зайцам» у аўтобусе. Тая, што захацела купіць талёнаў на праезд і, раскруціўшы хусцінку, падала шафёру складзеную ў некалькі разоў паперку, якую апошні аддаў назад са словамі: «Пакамечаных зайцаў не бяром».

Ня памятаю нумар таго аўтобуса і прозьвішча вадзіцеля. Дый навошта гэта? Цяпер і за больш сур´ёзныя парушэньні праўды не даб´ешся, а тут — дробязь... Але нядрэнна ўсё ж ведаць — дзе носяць грошы бабулькі...

Дарэчы, падобнае адбываецца ня толькі з пакамечанымі «зайцамі». Калі ў вас нейкім чынам апынуўся вельмі стары, зьлеплены, ці надарваны «драўляны», вас таксама будуць ганяць з аднаго магазіна ў другі, пакуль зможаце яго пазбавіцца. І наогул з «драўлянымі» таксама здараюцца самыя розныя прыгоды...

**МАЕ «ТРОЙКІ» — МАЕ СКАКУНЫ**

Так, калі перафразіраваць словы папулярнай песьні, то не толькі думкі могуць быць скакунамі, а незвычайныя прыгоды напаткамі не адных «зайцаў».

Як вядома, заробкі нам паднялі так, што, напэўна, ніколі ў жыцьці мы яшчэ ня мелі гэтулькі грошай, і ніколі у жыцьці, мабыць, не былі такімі беднымі. І цяпер, калі ўспамінаеш выраз: «Грошы любяць пералік», дрыжыкі па целу бягуць. Бо ўсім сталі даваць зарплату амаль аднымі «траякамі». Паспрабуй пералічы! Не да пераліку, калі ў чарзе па грошы людзі стаяць днямі. Між іншым, хтосьці і гэта становішча выкарыстоўвае, каб пажывіцца на дармаўшчынку...

Мяркуйце самі па такім выпадку. У магазіне пры разьліку мужчына падаў прадаўцу дзве запакаваныя пачкі з «траякамі». Вядома, спачатку ў чарзе абураліся — прадавец жа вымушаны пералічваць. Але што зробіш, апраўдваўся той, калі такімі даюць. І на самай справе, на мужчыну людзі абураліся нядоўга. Калі аказалася, што ў адным з пачкаў не хапае некалькі купюр, многія пачалі ўспамінаць аб такіх жа выпадках у сваёй сям´і. І што характэрна, менавіта ў пачках з «траякамі» не далічваліся купюр.

Так што, грамадзяне, лічыце, лічыце і яшчэ раз — лічыце, калі ня хочаце не далічыцца ў сваёй кішэні.

І ў заключэньні некалькі залатых правіл, якія выцякаюць з гэтых замалёвак. Ну, амаль што паводле Дэйла Карнегі.

**Першае.** Не камячце «зайцаў»! А калі вам даюць такіх у магазіне — не бярыце, каб не прыйшлося потым прасаваць.

**Другое.** Не бярыце старых, зьлепленых, парваных рублёў, чырвонцаў і іншых «драўляных», нават, калі там ёсьць нумар. Інакш будзеце насіцца зь імі, як з пісанай торбай, і зможаце пазбавіцца толькі тады, калі прадавец нейкім чынам не заўважыць.

**Трэцяе.** Лічыце грошы не адыходзячы ад касы, калі лічыце, што ваш час і нэрвы каштуюць таго.

Удачы вам, спадары!

**Т. КУДРАШОВА, г. Ліда.**

# У ВІЛЬНІ

КАСЬЦЁЛЫ, цэрквы, старыя дамы — усе ў будаўнічых загарадках, абабітыя лясамі да самага верху. «Ажываюць крокі твае ў цішыні начной...».

Фатограф троху не пасьпявае. Чакаем. Аказаўся ён, як і мела быць, тыповым беларускім віленчуком зь сям´і, дзе перамяшаліся ўсе народы й народнасьці гэтага краю, закінутым сваім беларускім Богам і ўрадам прыстойным чалавекам, якога зьбівалі й зьбіваюць з толку таварышы Швэд зь Ціхановічам з КПЛ-КПСС ды пан Мацейкянец з кампаніяй «зьвёнзку полякув на Літве»... Хлопец стараецца — ужо ганяў падвярнуўшагася сына на другі канец месца па стужкі й рэактывы.

Нарэшце ўсё гатовае й наступае, як кажуць сьвежаажэненыя, самы далікатны момант: колькі гэта каштуе? Мы прыкідвалі: ну, тысячу, ну, ад сілы паўтарыдзьве — больш не дамо...— А я знаю?..— пераступае з нагі на нагу фатограф Яраслаў Марыянавіч.— Ну, трыста рублёў... «Ах, Божа наш, Божа...— думаю я.— І яго яшчэ нехта будзе лічыць палякам! То ж зь яго паляк, як зь мяне Горбачоў!..».

Падзякаваўшы пану Яраславу, зноў ідзем на тралейбус. Зноў паўгадзінная трасучка назад, да беларусаў. Потым урачыстае, са шматлікімі падзякамі, клятвамі, разборкамі, абяцанкамі, сьлёзамі й таму падобным, вяртаньне старога альбому яе гаспадыні. Узрушаны пасьля Вільні ўвогуле й віленскіх кавярняў, у прыватнасьці, цалую ручку й пакідаю з аўтографам сваю кніжку. Усё на гэты раз, свабода...

НАЗАД на вакзал. Там мала не дастаем істэрыкі — усе цягнікі йдуць ад першага пэрону, усе спазьняюцца; усе ў розныя бакі — Гудагай, Ліда, Горадня,— усе нічым не пазначаныя... Нарэшце едзем, каштуем чорнага віленскага піва зь цьмінным хлебам. Пані насупраць прапануе нож парэзаць каўбасу. Ад піва й нават ад каньяку адмаўляецца. Едзе дахаты, як і мы. Настаўніца зь нейкай лясной вёсачкі на наш бок ад Варэны. Ахвотна падтрымваем размову пра тое, што мяжа павінна быць за Магілёвам і Віцебскам, а ня тут. «С вами можно еще о чем-то говорить, вы же нормальные люди! А эти...». У Варэне ўлазяць чатыры цэльніка, дакладней два цэльніка й дзьве цэльнічкі. «А это что? Пиво, коньяк? А это почему прячете? А-а! Это уже выпили...». Усёй кампаніяй хутка абыходзяць вагон, потым выбіраюць адну ахвяру пры двух здаравенных торбах на калёсіках і пачынаюць трасьці: колькі свэтраў, колькі жаночых трусоў і г. д.

Вяртаемся. Ужо цёмна. У Ліхачах увальваюцца п´яныя магнітольскія дачнікі, у Парэччах сапляки-аксэлераты зь п´янымі ж маладымі сучкамі. Вось мы і дома. Айчына...

**Алесь ЧОБАТ. Горадня-Вільня-Горадня.**

# НА ПРАСЬЦЯГІ МУЗЫЧНАЙ ЭЎРОПЫ

Фэстываль маладой беларускай музыкі «Басовішча-92», які адбыўся на Беласточчыне, адышоў у мінулае. Ня буду пісаць доўгіх прадмоў, адразу выкажу некалькі сваіх думак як удзельнік імпрэзы і як чалавек, які чуў і бачыў амаль усё, што рабілася ў лесе каля Гарадка.

Фэстываль быў, бадай, самы прадстаўнічы з усіх, што ладзіў БАС, бо, як казалі арганізатары, праводзіўся нават конкурсны адбор. Узрадавала тое, што ў праграме ўдзельнічала шмат яшчэ ня вельмі вядомых бардаў і гуртоў: Лана Медзіч, Вольга Акуліч, «Палац», «Талер», «Вакзал». У параўнаньні з мінулагоднім «Басовішчам», прыехаў даволі вялікі корпус газэтчыкаў, радыё- і тэлевізійных журналістаў, дзякуючы якім аб тым, што такое маладая беларуская музыка, даведаліся людзі ня толькі на Беларусі, але і ў суседніх краінах: Летуве, Украіне, Расеі. У фэстываля зьявілася шмат спонсараў. Акрамя Беларускага аб´яднаньня студэнтаў, мэцэнатамі выступілі «Ніва»,



«Часопіс», прыватныя кампаніі «Амэга», «Унібуд», Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы, іншыя арганізацыі і прыватныя асобы. Сярод гэтага доўгага сьпісу не аказалася аніводнага спонсара з самой Беларусі. У нас знаходзяцца грошы на правядзеньне рознага кшталту конкурсаў прыгажунь, ад рэспубліканскіх да местачковых, а да нечага больш саліднага няўжо пакуль не дайшлі розумам?

«За гэтай сцэнай — прасьцягі музычнай Эўропы, і мы туды выйдзем»,— сказаў рэявод імпрэзы Ян Максімюк, калі распачынаў праграму. Неяк спрадвеку да беларусаў прызвычаіліся ставіцца як да занядбанага народа, якому ніколі ня выйсьці за межы свайго абмежаванага цяжкімі ўмовамі жыцьця і існаваньня. Але, як выказаўся той жа Янка Максімюк, Беларусь — гэта, можа быць, справа зусім сучасная. Так, Беларусь — гэта край, дзе рок-н-рол жывы і дзе на гэтую «хваробу» хварэе шмат людзей. Прыклад таму — «Басовішча-92».

Вядомы ў Польшчы мастак Лявон Тарасэвіч выказаў думку, што такі фэстываль павінен праводзіцца ў Віцебску ці Навагрудку. Што ж, слушна. Сьвет ведае Віцебск, бо сьвет ведае Марка Шагала. Але ж Беларусь — гэта ня толькі сталіца СНД Менск, крэпасьць-гэрой Брэст ці шагалаўскі Віцебск. Гэта і шмат іншых прыгожых старажытных гарадоў. І было б вельмі добра, і нават у нечым сымвалічна, каб фэстываль маладой беларускай музыкі праводзіўся ў стольным горадзе некалі магутнейшай у Эўропе дзяржаве — Навагрудку...

Крыху аб музыцы і музыках.

Некаторыя музычныя крытыкі абураліся тым, што ў Гарадок прыехалі «беларусцы» на два дні віцебскі «Вакзал» і берасьцейскі «Талер», якія, аддаючы даніну патрабаваньням часу, быццам бы раптам засьпявалі па-беларуску. Кан´юнктура? Безумоўна. Ды, зь іншага боку, ну і што ж? Ня лепшы шлях і ня лепшае выяўленьне сваёй сьвядомасьці — з гэтым нельга не пагадзіцца. Але тыя ж «Вакзал» і «Талер» не ўзялі ўдзелу ў «Славянском базаре» ў Віцебску, які ладзілі як бы альтэрнатывай «Басовішчу» і трансьлявалі на Беларусь, Украіну і Расею. Не прынялі таму, што фэстываль у Гарадку — сёньня большы прэстыж і большая выгода. А гэта гаворыць аб тым, што ў «Басовішча» вялікая пэрспэктыва, калі зь ім ня станецца таго, што калісьці стала зь «Юрмалай».

На імпрэзе музыка была на любы густ. Тут, як кажуць у народзе, бычкі ігралі ў лучкі, а цёлкі ў сьвісьцёлкі, а бараны ў арганы, а коні ў гармоні...

Адкрыцьцём фэстывалю стаў менскі гурт «Палац», які атрымаў прыз радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». У Менску хлопцы стварылі вялікі прафэсійны калектыў, а тое, што яны прывезьлі на «Басовішча», было, на маю думку, спробай (як аказалася, даволі ўдалай) пагуляць у сярмяжную беларускасьць, для аздабленьня якой па стратэгічным прычынам у склад гурта ўключылася невялічкая духавая сэкцыя. Даволі арыгінальна, нечакана, нязвыкла, але з такой праграмай лаўрэатамі на «Басовішчы-93» ім ужо ня стаць.

Прыемна ўразіла менская «Крама», асабліва ў першы дзень. Абсалютна новая ў параўнаньні зь мінулым годам праграма, адпрацаваная і адладжаная, легендарны Ігар Варашкевіч, добрае адчуваньне публікі, песьні, якія за кароткі час сталі хітамі,— і «Крама» — ляўрэат Гран-пры. А песьня «Выпі са мной да дна» вельмі спадабалася і музыкам, і слухачам, бо ўжо вельмі актуальнай была яна на працягу ўсіх трох дзён імпрэзы. Дарэчы, аб узроўні гурта можа сьведчыць і той факт, што «крамчукі» запрошаныя на гастролі ў Нямеччыну.

Расчараваў «Мясцовы час». Гэтыя монстры беларускага рока за апошні год здолелі напісаць толькі адну новую песьню, пра якую наўрад ці можна сказаць, што яна ўпрыгожыла рэпэртуар полацкага гурта. І «Ускраіна», і «Шлях дамоў» (лепшы хіт «Басовішча-92»), і наогул усе выступы «МЧ» паказалі, што музыкі выступаюць на належным ўзроўні, але гэта ўжо ўчорашні дзень, а мы чакалі нечага новага і ўжо ня менш удалага.

Тое, што ў праграму ня быў уключаны гурт «Камэлот» на чале са Зьміцерам Сідаровічам — гэта, лічу, памылка арганізатараў імпрэзы. Застаецца толькі пашкадаваць тых аматараў беларускай песьні, якія ня здолелі пачуць цікавыя, арыгінальныя, надзвычай мэладычныя песьні хлопцаў. Але хутчэй за ўсё,



«Камэлот» — не для такой аўдыторыі, у якой цела й розум ажываюць толькі пад гукі рок-н-ролу.

Гасьцямі «Басовішча» былі «Мроя» і «Уліс». У «Улісе» ўжо каторы час выступае новы вакаліст Алег Тамашоў, які, па меркаваньнях многіх, стаўся даволі добрай заменай аднаму з самых шаноўных рокераў Беларусі Андрэю Патрэю. Стод-рок «Мроі», які вызначаецца як «падпарадкаваная стыхійным эмоцыям, незакамплексаваная музыка, поўная жывой энэргіі і аранжыраваная, паводле найноўшых гучаньняў, якая сягае да паганскіх першакрыніц беларускай культуры», паказаў, што гэты гурт бадай адзіны ў рэспубліцы, які йграе складаны, высокапрафэсійны, ні з чым ня параўнальны рок.

Крыху пра бардаў.

Калі на сцэну выйшаў Віктар Шалкевіч з Горадні, спыніць народ было немагчыма. Віктар прывёз сваю праграму «Правінцыя» і зусім новыя песьні. Гэты самы папулярны беларускі выканаўца на Беласточчыне і стаў пераможцам сярод бардаў. Гаворку зь Віктарам мы абяцаем чытачам «Пагоні» ў адным з наступных нумароў.

«З папулярнага сьпевака ён вырастае ў асобу на нашым нацыянальным культурным небасхіле. Кожную новую ягоную работу можна чакаць як споведзі перад сьвятам». Гэта сказана пра Алеся Камоцкага, вельмі паважанага мною барда і чалавека. Яго разумныя, добрыя, вечныя вобразы трымалі ля сцэны слухачоў нават тады, калі пайшоў дождж. Алесь перад самым фэстывалем трапіў у сур´ёзную аварыю, але здолеў выступіць.

Цудны, каларытны голас Вальжыны Цярэшчанкі, якая сьпявала песьні на вершы нашай зямлячкі Дануты Бічэль-Загнетавай, бардаўская нэарамантычная паэзія Леры Сом, высокадухоўныя, кранаючыя песьні Ланы Медзіч. Бардаўская песьня робіцца на Беларусі сур´ёзнай зьявай, разнастайнай, у нечым ужо нават прафэсійнай. І хачу абнадзеіць чытачоў нашай газэты і прыхільнікаў паэтаў зь гітарай, што над Горадняй гэтай восеньню зьбіраюцца ладзіць вялікі фэст беларускіх бардаў.

Што ж, фэстываль «Басовішча»-92» стаў ужо гісторыяй. Як сказаў мой сябра, журналіст «Беларускай маладзёжнай» Алесь Дайнэка, на імпрэзе сфарміравана новая гэнэрацыя беларускіх музыкаў, якая сьведчыць аб тым, што ў Эўропе ўзрастае пакуль яшчэ ня зусім, можа, прыгожая, але ўнутрана моцная й здольная да жыцьця маладая беларуская музыка. Музыка нашага народу, музыка нашага розуму, нашых сэрцаў.

**С. ЛАЎНІК.**

**На здымку: вакаліст «Крамы» Ігар Варашкевіч; сьпявае Алесь КАМОЦКІ.**

**Фота У. ПАНАДЫ.**

## На Палесьсі

# ШЛЯХ

Праз шкло легкавіка было добра відаць, як мільганулі шыльды з надпісам «Брэсцкая вобласьць». Вочы пачынаюць бегаць з боку на бок дарогі, пазнаючы знаёмыя мясьціны, чытаючы надпісы на блакітных шыльдах. На сэрцы робіцца сьвятлей, бо ўсё, што напісана, напісана на беларускай мове, хоць і наркамаўскай, але за землякоў у душы ўзгараецца гонар. Памятаю, у час «яднаньня» народаў у агульную сям´ю, усё было тут напісана на мове старэйшага братняга народу. Цяпер так прыемна чытаць назвы вёсак накшталт Ёдчыкі, Няхачава, Сьвятая Воля, Стары Двор і г. д.

Наш «масквіч» спыняецца ў мястэчку Ружаны, дзесьці тут яшчэ захаваліся рэшткі замку. Распытваем людзей, як туды прайсьці, і вось мы побач з даўнінай. Старыя, абветраныя муры таямніча, па-свойму вітаюць нас. У замку ціша, але ён не нагадвае пустэчу, вакол узьведзены рыштаваньні, вядуцца працы па адбудове старажытнага помніка. Сёньня нядзеля, дзень адпачынку.

Ад Ружанаў да Косава 24 кілямэтры, там — у Косаве — таксама замак. Некалі ў студэнцкія часы я быў тут на бульбе. Мясцовыя жыхары распавядалі, што паміж Ружанскім і Косаўскім замкамі ёсьць падземны пераход, але ўваход у яго згублены. Усёй групай шукалі мы ў склепах замка тыя патаемныя дзьверы, ды ўсе намаганьні былі дарэмныя.



### У ПАЛЕСКАЙ СТАЛІЦЫ

Зноўку сядаем у легкавік і імчым далей. Недзе наперадзе родны Пінск — цікавы й самабытны горад з разнастайнымі помнікамі архітэктуры. Ён старэйшы за Горадню, Наваградак, Менск. У ім знаходзіцца вядомы на ўсю Эўропу кляштар, збудаваны яшчэ ў першай палове XVII стагодзьдзя. Зараз у кляшторных мурах разьмешчаны дзіцячы шпіталь, кінатэатр «Дружба», музэй.

Непадалёк музэя помнік правадыру пралетарыяту. Чорная грубастая каменная постаць Ільіча самотная — у Пінску пэкабэ пакуль не адрадзілася. У дзяцінстве мне апавядаў дзядуля, што на месцы помніка знаходзілася сямікупаловая царква. Дык калі ў 39-м прыйшлі бальшавікі, на працягу тыдня з гарматаў расстрэльвалі царкву. Здолелі зьнішчыць толькі яе верхнюю частку, а таўстыя, магутныя, зробленыя адмысловымі беларускімі майстрамі сьцены, так і не паддаліся «могучей руке пролетариата». Стаяць бы ім, але ўжо пасьля Другой сусьветнай чырвоныя вандалы зрабілі сваю справу, узарваўшы сьцены.

Пінчукі, усчуўшы беларускую гаману, ветла ўсьміхаюцца і на мясцовым дыялекце даюць неабходныя тлумачэньні. Скарыстаўшы зь іх, хутка трапляем на рынак. Мясцовыя сяляне расклалі на прылаўкі ягады, гуркі, яблыкі, памідоры, усяго не пералічыць. Цана таньнейшая, чым у Горадні. Гуркі — 5 рублёў, памідоры — 10, цыбуля — 40 рублёў кіля.

Быць у Пінску й ня бачыць Прыпяці? Рака хоць й значна паплытчэла ад засухі, але па-ранейшаму магутная й глыбокая. Па ёй на вялікай хуткасьці імчаць ваенныя караблі. Яны належаць цэнтру падрыхтоўкі ваенна-марскіх спэцыялістаў для Расейскага флёту. Цікаўлюся ў матросаў, чаму цэнтр рыхтуе спэцыялістаў для Расеі. Адказ самы празаічны: цэнтр знаходзіцца пад яе юрысдыкцыяй. Вось як аднесьліся «браты» да захадаў нашага кіраўніцтва, якое намагалася набыць гэты цэнтр, каб выкарыстаць яго ў будучыні для патрэбаў уласнага беларускага флёту. Спрабую паразмаўляць з афіцэрамі, але тыя, пачуўшы, аб чым ідзе гамонка, хуценька зьнікаюць за бел-чырвона-белым шлагбаўмам. Крыўдна на сваёй зямлі ня быць гаспадаром, але яшчэ больш балюча за дзяржаву і яе нягеглае кіраўніцтва.

### СЯРОД ПІНСКАЙ ШЛЯХТЫ

У творы «Пінская шляхта» спадар Дунін-Марцінкевіч, можна сказаць, зганьбіў гонар беларускага народу. Бо Пінская шляхта зьявілася ў гісторыі В. К. Л. за часы Вітаўта Вялікага. Пашану шляхта атрымала на полі бітвы Грунвальда, дзе, як вядома, Вітаўт Вялікі лепшым воям дараваў волю і ўласныя землі. Сёньня на Піншчыне засталося фактычна тры невялічкіх вёсачкі, дзе жыве шляхта. Гэта вельмі добрыя й працавітыя людзі, якія захавалі шмат сваіх адмысловых рысаў. Асабліва гэта адлюстравана ў гаспадарцы.

Прывыкшы за стагодзьдзі быць незалежнай, шляхта дагэтуль вельмі шануе свой падворак. Таму й будуе хату, хлявы, гумно як адзіны архітэктурны ансамбль. Нетыпова аднеслася шляхта й да сувэрэнітэту. Бадай усе ўспомнілі сваю гісторыю, хуценька пакінулі саўдэпаўскія калгасы, выкупілі коней, тэхніку, дабіліся надзелаў зямлі, сенажацяў.

За адным зь іх — са спадаром Іванам Целяціцкім — я пагутарыў. Ён за дзяржаўнасьць Бацькаўшчыны, за гістарычныя й моўныя традыцыі. Спадар Целяціцкі лічыць, што толькі на шляху да поўнай незалежнасьці можна набыць пашану, а пашана гэта — калі з рук у рукі ад бацькі да сына пераходзіць у спадчыну ўсё нажытае продкамі, як гэта робіцца ў эўрапейскіх краінах. Толькі шкада, што Вярхоўны Савет з урадам на гэты момант ня здольны вырашыць такое надзённае пытаньне. Таму ў асяродзьдзі шляхты ўсе за рэфэрэндум, надакучыла жыць у «мужыцкім раі».

### ТАМ, ДЗЕ НАРАДЖАЛІСЯ ПАЛЯНЭЗЫ

Вёску з назвай Парэчча бадай сустрэнеш у кожнай мясьціне Беларусі, але Парэчча на Піншчыне мае сваю асаблівасьць. Тут у адным з сваіх шматлікіх замкаў тварыў славутыя палянэзы Міхаіл Агінскі. Час захаваў для нашчадкаў на Піншчыне нямала помнікаў, зь якімі было зьвязана жыцьцё спадара Агінскага. Найбольш вядомыя: парк Агінскага ў Парэччы й рукатворны канал, які працягнуўся ад Ясельды да Шчары.

У Парэччы жыве мой дзядзька Язэп Астроўскі, пра парк распавядае з захапленьнем, маўляў, там захаваліся яшчэ дрэвы, якія садзіў сам кампазітар. Але пайсьці ў парк з намі ён адмовіўся, бо тое, што сёньня нагадвае гэтае гістарычнае месца, нельга інакш назваць, як выган для калгаснага быдла. На месцы палаца збудавана абора. Ужо вечарам дзядзька расказаў, як у пяцідзесятыя прыехаў новы старшыня калгасу. Быў ён хіба зь ліку дваццаціпяцітысячнікаў, загадаў зруйнаваць дом, а на ягоным месцы праз час «узьнікла» стойла. Ня лепей выглядае й канал: зарос, забрудзіўся, у ім мыюць трактарысты сваю тэхніку (сам бачыў).

### СЬВЯТАЯ ГАРА ЦЕРАБЕНЬ

Я прыйшоў на гару Церабень, калі сонца было глыбока на небасхіле. Гара Церабень ня высокая, але на нізкім Палесьсі глядзіцца, як волат. Сярод мясцовых людзей яна лічыцца сьвятым месцам.

Сюды часта прыходзіць спадарыня Надзея Сачкоўская. Вось якую нязвычайную гісторыю гэтая жанчына расказала. Калісьці, шмат стагодзьдзяў таму, стаяла на гары праваслаўная царква. Рыхталіся вернікі да сьвята «Макавей», яно супала яшчэ з адным сьвятам. Дык пра другое сьвята й забылі, і калі сьвятар скончыў набажэнства па «Макавею», царква нечакана правалілася ў гару.

З таго часу самы раз на «Макавея» ўвечары тут можна пачуць, як ў глыбках гары пяюць людзі. Таму й лічыцца гэтае месца сьвятам.

**Г. АСТРОЎСКІ,**
**Горадня — Пінск.**

## Спорт

### ХАКЭЙНАЯ СТАЛІЦА

Гарадзенскі «Рытм» — базавая каманда нацыянальнай зборнай Беларусі па хакэю на траве. Гэта стала вядома пасьля таго, як рэспубліканская фэдэрацыя нядаўна прыняла рашэньне аб стварэньні жаночай зборнай. Дарэчы, галоўным трэнерам прызначана Ала Грэсь, якая адначасова кіруе і «Рытмам».

Аўтарытэт беларускага хакэю на траве ў Эўропе, дзякуючы ўдаламу выступленьню гарадзенскіх спартсмэнак у кубкавых спаборніцтвах, даволі высокі. Ала Грэсь лічыць, што ў нас ёсьць усе шанцы ўжо ў бліжэйшы час пацясьніць сваіх канкурэнтаў з дарогі, якая вядзе да прызавых месцаў. Зборную ўжо сёлета чакаюць сур´ёзныя выпрабаваньні. Так, у лістападзе беларускія хакэісткі прымуць у Маскве ўдзел у турніры чатырох камандаў, дзе таксама выступяць зборныя Расеі, Украіны, Літвы. А ў сьнежні наша каманда разьлічвае на паездку ў Галяндыю — там адбудзецца зімовае першынство Эўропы ў закрытых памяшканьнях.

Ну, а сам «Рытм» у верасьні паедзе ў Румынію на міжнародны турнір. Вось толькі грошай на замежныя вандраваньні, як заўсёды, на хапае. Але ж седзячы ў хаце, Эўропу не ўбачыш, ды й сябе іншым камандам не пакажаш.

### АСТАПКОВІЧ ЗНОЎ ЛІДЫРУЕ

Не зусім пашанцавала на алімпійскіх гульнях у Барсэлёне лёгкаатлету з Горадні Ігару Астапковічу. У кіданьні молату ён быў толькі другім, а першынстваваў таджыцкі «малатабоец» Андрэй Абдуваліеў.

І вось праз тыдзень пасьля Алімпіяды мацнейшыя лёгкаатлеты сьвету зноў сабраліся разам у Кёльне, дзе праходзіў адзін з этапаў спаборніцтва сэрыі «Гран-пры». Дык вось, Ігар Астапковіч зноў даказаў, што менавіта ён — лідэр сэзона. Свой молат гарадзенец кінуў на 81 мэтр 32 сантымэтры. Гэта значна больш, чым у алімпійскага чэмпіёна Абдуваліева. Рэванш адбыўся.

### ФУТБОЛ: КОЛЬКАСЬЦЬ І ЯКАСЬЦЬ

Хто з футбольных заўзятараў хоць крыху згубіў пільнасьць, мог не заўважыць зьяўленьня ў чэмпіянаце Беларусі каманды зь цікавай назвай «Кардан флайерз». Менавіта так цяпер завецца футбольны калектыў Гарадзенскага завода карданных валаў.

Але ня толькі справа ў назве. «Кардан флайерз» стаў фармклубам «Хіміка», які гуляе ў першай лізе. Паміж камандамі пайшоў вольны абмен гульцамі. Прадпрыемства зацікаўлена ў тым, каб у хуткім часе пабудаваць на беразе Нёмна стадыён, гатэль. Дый трэцяя ліга, як лічаць у камандзе, для «Карданаў» не мяжа.

Усур´ёз разьлічвае трапіць на футбольны Алімп і яшчэ адна гарадзенская каманда — «Хімвалакно», якая выступае ў другой лізе. Між тым, Гарадзеншчына ў чэмпіянаце Беларусі прадстаўлена яшчэ лідскім «Абутнікам», слонімскім «Альбэрцінам», смаргонскім «Станкабудаўнікам», мастоўскім «Дрэвaапрацоўшчыкам». Вось толькі цікава: ці пяройдзе колькасьць у якасьць? Бо пакуль у рэспубліцы не Горадня робіць футбольнае надвор´е.

**Ігар НАВАДВОРСКІ.**

**Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд «Бацькаўшчына».** **Рэдактар С. АСТРАЎЦОЎ.**

Наша газэта ёсьць БЕЛАРУСКАЙ ТРЫБУНАЙ, адкрытай для выказваньня розных пунктаў гледжаньня, розных аўтараў зь любых краін, гарадоў і вёсак. Меркаваньні аўтараў публікацый не заўсёды могуць супадаць зь меркаваньнем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 230023, г. Горадня, вул. Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.

Індэкс 63124.
Выходзіць штодватыдні па пятніцах.
Фотанабор, афсэтны друк.
Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня, 230003, г. Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Тыраж 2057 асобнікаў. Замова № 3347
Нумар падпісаны да друку 27 жніўня 1992 г. у 17.00.